# СЦЭНАРЫЙ — ПЕРШ ЗА ЎСЁ

Пытанне аб удзеле беларускіх пісьменнікаў у стварэнні сцэнарыяў мае не малую гісторыю. Яно востра стаяла яшчэ і тады, калі Беларуская кінастудыя працавала ў Ленінградзе; пачыналася з запрашэння пісьменніка ствараць сцэнарый і канчалася тым, што сцэнарый не ставіўся.

Амаль няма такога з беларускіх пісьменнікаў старэйшага пакалення, які б да вайны не спрабаваў сілы ў кінадраматургіі. Пісалі сцэнарыі Пятрусь Броўка, Змітрок Бядуля, Міхась Зарэцкі, Янка Маўр, Рыгор Мурашка, Міхась Лынькоў і інш.

Паўстае пытанне: калі столькі, і да таго ж лепшых, пісьменнікаў Беларусі пісалі сцэнарыі і яны не маглі быць пастаўлены ці выйшлі ў лепшым выпадку пасрэдныя фільмы, дык аб чым гэта сведчыць? Або аб фармальных адносінах да справы студыі, якая заказвала сцэнарый, плаціла грошы і не думала нават яго ставіць. Або рэжысура была бяздарная ці пісьменнікі былі няздольнымі напісаць добрыя сцэнарыі.

Думаецца, не было галоўнага: правільнага кіраўніцтва сцэнарным працэсам, ад чаго залежыць усё астатняе.

Не заўсёды на вышыні гэтае кіраўніцтва і сёння. На студыі яшчэ не ўсе разумеюць, што не кожная тэма, не кожны факт рэчаіснасці можа стаць сюжэтам кінафільма.

Чаплін у пошуках «сваёй» тэмы пераварочваў груды сюжэтаў, а сюжэт «Дыктатара» знайшоў у апавяданні невядомага пісьменніка. Бываюць тэмы спецыфічна-раманічныя, або эпічныя, і яны з незвычайнай цяжкасцю паддаюцца кінематаграфічнаму выяўленню. Вось, напрыклад, амерыканскі фільм па апавяданню Э. Хэмінгуэя «Стары і мора». Хто пойдзе на паўтары гадзіны слухаць развагі старога, які сядзіць у лодцы? А празаічны твор чытаецца з захапленнем.

Сцэнарыст уступае ў спаборніцтва з другімі аўтарамі, фільмы якіх ужо ішлі на экране і якія выходзяць ці выйдуць. Таму сюжэт, думка фільма павінны быць арыгінальнымі, свежымі, выкладзены глыбока, але ў той жа час у яркай, даступнай, захапляючай форме. Раманіст ці апавядальнік мае права напісаць не дынамічны эпізод, ён можа гэта кампенсаваць пазней у цудоўным яркім раздзеле. У фільме такой кампенсацыі няма. Сумны ці шэры кавалак можа загубіць усё добрае наступнае. Фільм прад'яўляе выключна многа даволі сур'ёзных патрабаванняў. І галоўнае з іх: ці ўсхвалюе фільм мільёны гледачоў. Вось тут патрэбна найвялікшая мудрасць кіраўніцтва кінастудыі, сцэнарнага аддзела, рэжысуры. Адказ павінен давацца, зыходзячы з прынцыпаў: наколькі значная тэма, якія мажлівасці дае яна для пабудовы драматургічна складанага і ў той жа час выключна лагічнага і яснага твора. Сцэнарый не можа быць перагружаны вялікай колькасцю герояў, дзея павінна адбывацца ў розных месцах (гэта патрабаванне кіно часам трэба парушаць, калі думка патрабуе). Трэба дамагацца, каб само дзеянне, а не толькі словы, характарызавала герояў і рухала наперад фільм. Фільм павінен развівацца лагічна, па ўзыходзячай лініі напружання, ён не можа быць перагружаны хаця б нават і цудоўнымі сцэнамі або вобразамі і г. д.

Гэтыя меркаванні нялёгка ажыццявіць, асабліва, калі сама задума мала драматургічная.

Калі ідэя і галоўны герой не маюць навізны і сур'ёзнага грамадскага значэння, нельга чакаць добрага фільма.

Часта ідэя і галоўны герой грамадска значныя, але патрабуюць эпічнага, а не драматургічнага вырашэння. А мы ўсё ж пішам на гэтым матэрыяле сцэнарый. Тады ў фільме пачынаецца статыка, доўгія маналогі, героі не сутыкаюцца ў барацьбе. Гэта часцей за ўсё здараецца пры экранізацыі літаратурных твораў, прынцыпы якой у нас яшчэ не распрацаваны як след.

Беларуская студыя працягвае работу над эпапеяй Якуба Коласа «На ростанях». Цяпер ставіцца другая серыя гэтага твора, якая ахоплівае перадтурэмны і турэмны перыяды ў жыцці Лабановіча, аж да пачатку імперыялістычнай вайны.

У сувязі з выхадам першай серыі фільма шмат спрэчак было аб тым, ці мелі права аўтары сцэнарыя адступаць ад літаратурнай першакрыніцы.

Твор Якуба Коласа — выдатная эпапея, але іменна эпапея, і трэба шчыра сказаць: вельмі цяжка паддаецца драматургічнаму ўвасабленню. І правільна робяць аўтары сцэнарыя А. Куляшоў і М. Лужанін, калі зыходзяць з сэнсу і духу, а не літары твора Якуба Коласа. Я не бачу іншага вырашэння гэтай цяжкай праблемы. Тут трэба смялей даваць мастацкі домысел. Інакш, калі прытрымлівацца толькі дакладнай інтэрпрэтацыі фактаў, як гэта рабілі некалі ў сцэнарыі аб Зоі Касмадзям'янскай, дык фільм траціць сваё мастацкае дыханне.

Хочацца яшчэ раз падкрэсліць, што кіраўніцтва сцэнарным працэсам вырашае вельмі многае, калі не ўсё, гэта відаць і па прыкладах сённяшняй работы студыі «Беларусьфільм».

Ужо амаль закончаны вытворчасцю фільм «Выратаваны сцяг» па сцэнарыю Стаднюка. Гэта фільм на зусім новую для беларускай кінематаграфіі тэму: аб подзвігу нашых салдат у першыя дні Айчыннай вайны. Рэжысёр І. Шульман нядрэнна паставіў фільм, але гэтую тэму, магчыма, з большым поспехам можна было б вырашыць на падставе рамана І. Мележа «Мінскі напрамак», твораў Шамякіна ці Кулакоўскага. Аднак фільм «Выратаваны сцяг» трэба лічыць поспехам студыі.

Горш справа з наступнай работай студыі — фільмам «Камсамолія». Ён, праўда, яшчэ не закончаны. І тут толькі можна сказаць аб задуме і сцэнарыях.

«Камсамолія» — чатыры навелы аб подзвігу моладзі ў дні грамадзянскай вайны, у перыяд рэканструкцыі, у час Айчыннай вайны і сёння. Сцэнарыі гэтых навел, акрамя першай, пакідаюць уражанне выпадковых эпізодаў.

Зараз студыя мяркуе паставіць сцэнарый А. Каплінскай «Дзень, у які спаўняецца 30 год».

Аб чым сцэнарый? Жанчына-мастак не хоча сядзець дома. Яна знайшла сабе занятак — кіруе мастацкім гуртком на заводзе. А муж не пускае яе на завод. Яна пакінула мужа, пасялілася ў інтэрнаце, а потым жыве ў маці. Пасля пазнаёмілася з лётчыкам-выпрабавальнікам і выйшла за яго замуж. Але на гэты раз яна ўжо не хоча, каб муж лётаў на самалётах, бо прафесія выпрабавальніка — вельмі небяспечная. Карацей кажучы, сама стала такой жа абмежаванай мяшчанкай, у чым у свой час абвінавачвала свайго першага мужа. Што аўтар хоча сказаць пра сваю гераіню? І наогул, што гэта за гераіня?

Адсутнасць у сцэнарыі сапраўднага жыцця, глыбокай грамадскай праблемы — гэта такі недахоп твора, які нічым нельга кампенсаваць.

Наступны твор, якому, праўда, не адкрыта такая зялёная вуліца, як сцэнарыю Каплінскай, гэта «Наследнікі Маркаўца» М. Гарулёва. Над ім яшчэ трэба добра папрацаваць, хоць па сваіх вартасцях ён куды вышэй за сцэнарый Каплінскай.

Рэшта сцэнарыяў—у рэзерве. Найбольш значныя з іх, якія заслугоўваюць увагі, гэта «Сярэбраная дарога» Я. Васілёнка, «Новая мама» К. Губарэвіча і «Апошні хутар» (па аповесці Я. Брыля «Галя») Г. Бекарэвіча.

У рэзерве без ясных перспектыў знаходзяцца сцэнарыі В. Віткі і Ус. Краўчанкі «Палескія зоры», Андрэя Макаёнка «Вялікая небяспека». І. Грамовіча «Прылуцкія салаўі», П. Васілеўскага «Галасы жыцця», Алены Васілевіч «Партызанская жонка» і інш.

Які ж рахунак можна прад'явіць нашай кінастудыі? Галоўнае, відаць, у тым, што яна яшчэ не стала пасапраўднаму беларускай кінастудыяй, якая ў сваіх творах павінна адлюстроўваць гераізм нашага народа ў гады ваенных нягод і ў мірны час, паказаць вобразы беларускіх рабочых, моладзі, паказаць дружбу нашага народа з вялікім рускім народам, даць вобразы герояў нашай гісторыі — Скарыны, Купалы, Каліноўскага, даць самабытную беларускую камедыю, экранізаваць найбольш значныя ў драматургічных адносінах празаічныя творы і г. д.

Вядома, нельга патрабаваць ад дырэктара студыі, сцэнарнага аддзела, рэжысёраў, каб яны замест аўтараў і пісьменнікаў пісалі сцэнарыі, але мы можам патрабаваць, каб выбар твора для экранізацыі быў не выпадковы, каб з яго атрымаўся хвалюючы, яркі фільм.

Мы можам патрабаваць, каб ужо ў працэсе абмеркавання заяўкі пісьменніка кіраўніцтва студыі магло ясна адказаць, ці ёсць драматургічна значнае, грамадска цікавае, актуальнае зерне ў прапанаванай тэме, ці варта яна той гіганцкай працы, якую патрабуе сцэнарый і фільм. І галоўнае, каб студыя мела сваю думку, а не ішла за модай, каб не заказвала сцэнарыяў па няяркіх у драматургічных адносінах творах. Па твору І. Шамякіна «У добры час» быў зроблены сцэнарый толькі таму, што быў створаны фільм «Кавалер Залатой Зоркі». А трэба было наадварот: паставіць фільм па яго добрай кнізе «Крыніцы». Трэба, каб не валаводзіліся са слабым сцэнарыем «Ёсць у мяне мара» толькі таму, што хтосьці з рэжысёраў яго пахваліў, каб не трацілі на гэта грошы, не тлумілі галавы маладому здольнаму сцэнарысту. Каб не хапаліся за слабы сцэнарый «Час дзеяння—нашы дні» толькі таму, што геалагічная тэма была моднай. Яна перастала быць моднай пасля таго, як не мела вялікага поспеху ў гледача «Неадпраўленае пісьмо» і праваліўся «Хмуры Вангур».

Мы маем права патрабаваць, каб амплітуда ацэнак у студыі не была такой неверагоднай, як пры разглядзе сцэнарыя «Залатыя россыпы» М. Матукоўскага. Сцэнарый так «замучылі», што ён зусім выпаў з плана. Дарэчы, калі б на яго паклалі столькі энергіі, як на навелы «Камсамолія», атрымаўся б цікавы фільм да юбілею камсамола.

Мы маем права задаць і некаторыя пытанні. Няўжо ўсім аўтарам сцэнарыяў трэба звяртацца за рэкамендацыяй да аўтарытэту і няўжо без пратэкцыі, без рэкамендацыі нашы сцэнарыі не знойдуць шлях да гледача? І наогул, чаму такі недавер да беларускіх аўтараў, хаця яны студыі ні разу яшчэ не падводзілі?

У многіх рэжысёраў няма пафасу перакананасці. Гадамі яны прыслухоўваюцца, прыглядаюцца і ні на чым канкрэтна спыніцца не могуць, пакуль ім не падкажа хто-небудзь.

А сцэнарны аддзел заказвае сцэнарый без разліку на рэжысёра. І атрымліваецца так, што сцэнарый заказаны пісьменніку, але ж яшчэ невядома, ці захоча яго ставіць рэжысёр. Усё гэта было б лягчэй вырашыць, каб не было раз'яднанасці рэжысёраў і аўтараў.

Студыя і Саюз работнікаў кінематаграфіі павінны яшчэ больш зблізіць сваю работу з Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Беларускіх пісьменнікаў не палохае праца, якую трэба пакласці на сцэнарый. Было б толькі на студыі добразычлівае стаўленне да іх твораў.

**Алесь КУЧАР**

# Агляд народных аркестраў

У Пінску адбыўся конкурс на лепшы аркестр народных інструментаў у гонар стагоддзя з дня нараджэння выдатнага рускага балалаечніка-віртуоза, кампазітара і музычна-грамадскага дзеяча В. Андрэева. Гэта добрае пачынанне кіраўніцтва музычнай школы. Вырашана штогод праводзіць агляды народных аркестраў з прысуджэннем калектывам-пераможцам пераходных прызаў і ўзнагароджаннем лепшых выканаўцаў.

У аглядзе-конкурсе прынялі ўдзел аркестры гідратэхнікума, педагагічнага вучылішча, музычнай школы і рад салістаў горада.

Канцэрт адкрыў аркестр педвучылішча пад кіраўніцтвам С. Жаркова. Зладжана і пранікнёна прагучала мазурка В. Андрэева. Т. Коркіна, уладальніца прыгожага меца-сапрана, цёпла і эмацыяльна праспявала пад акампанемент аркестра рускую народную песню «Стэп ды стэп вакол». Самадзейны аркестр педвучылішча паказаў сябе сталым калектывам, які мае вялікія перспектывы на будучыню.

Затым выступілі самыя маленькія артысты, вучні музычнай школы.

Вальсам В. Андрэева пачаў выступленне аркестр гідратэхнікума.

Апладысментамі было сустрэта сола на трохструннай «андрэеўскай» балалайцы выкладчыка музычнай школы А. Галаўко. Яго змяняе выканаўца на домры Л. Кавалёва.

З вялікай увагай быў праслуханы «Накцюрн» В. Андрэева ў выкананні Б. Мнацаканяна (скрыпка).

Апошнім на аглядзе выступіў выдатны калектыў музыкантаў у складзе выкладчыкаў музычнай школы, які выканаў рад твораў В. Андрэева.

**В. ВОЙНАР, З. ВАГЕР.**

*ПА СЛЯДАХ НАШЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ*

## «Нявывучаная спадчына»

У заметцы пад такой назвай («Літаратура і мастацтва» № 42 за мінулы год) пісьменнік Ул. Дубоўка ўзнімаў пытанне аб навуковай спадчыне вядомага этнографа В. Н. Дабравольскага.

Як паведаміў рэдакцыі дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР акадэмік П. Ф. Глебка, навуковая спадчына В. Н. Дабравольскага «знойдзе шырокае адлюстраванне ў капітальным гістарычным даследаванні «Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць», работу над якой калектыў аўтараў завершыць у канцы 1962 г.».

## «Бабруйскія трутні»

Пра дармаедаў і спекулянтаў Сяргейчык і Казімірава ішла гутарка ў артыкуле М. Беразінскага, змешчаным пад такой назвай у 84 нумары нашай газеты за мінулы год.

Выконваючы абавязкі начальніка аддзела міліцыі Бабруйскага райвыканкома тав. Таратун паведаміў рэдакцыі, што К. Сяргейчык атрымала пакаранне па суду, а Ул. Казіміраў працуе ў сучасны момант вучнем на заводзе.

## Будні Віцебска

Пры Палацы культуры мясцовай прамысловасці Віцебскай вобласці створан харавы калектыў, якім кіруе самадзейны кампазітар В. Гарбатоўскі. Хор развучвае беларускую народную песню «Ой, рана на Івана», песню В. Гарбатоўскага «Нас кліча Ленін» і іншыя творы.

Вокладкі новых кніг, якія выйшлі ў Дзяржаўным выдавецтве БССР: «Салавей» **Зм. Бядулі** (пераклад на рускую мову П. Кабзарэўскага), «Я вярнуся жывы» **М. Крно** (пераклад са славацкай мовы Я. Бяганскай), «Аб мастацкай прозе» **А. Кучара** і «Лань—рака лясная» **А. Шашкова.**

## НА ТРЫ МЕСЯЦЫ — ДА ЦАЛІННІКАЎ

Белдзяржфілармонія накіравала брыгаду эстрадных артыстаў у Казахстан для абслугоўвання працоўных цалінных саўгасаў. У склад гэтай брыгады, якую ўзначальваюць Г. Бандарэўскі і З. Сысоева (канферанс), уваходзяць вакалісты Э. Міцуль і Л. Чарнарук, танцоры І. Карнейка і С. Кальчэўскі, акрабаты Т. і Э. Бязручанкі, артыст арыгінальнага жанра А. Нагайцаў і баяніст К. Шчаглоў.

Выканаўцы беларускай эстрады выехалі на цалінныя землі ў трохмесячную гастрольную паездку. За гэты час намечана даць 60 канцэртаў.

Канцэртная праграма Г. Бандарэўскага і З. Сысоевай разнастайная: у ёй многа твораў беларускіх пісьменнікаў і кампазітараў. Апрача канцэртаў, беларускія артысты правядуць з удзельнікамі мастацкай самадзейнасці цалінных саўгасаў творчыя кансультацыі і семінары.

## Для працоўных Слуцка

Пяць творчых сустрэч народнага артыста Саюза ССР Я. Цікоцкага і заслужанага дзеяча мастацтва БССР М. Шнэйдармана наладзіў Саюз кампазітараў БССР з працоўнымі Слуцка.

Старшыня Саюза кампазітараў БССР Я. Цікоцкі расказаў случчанам аб развіцці беларускай прафесіянальнай музыкі, аб сваёй творчасці, аб працы Саюза кампазітараў.

Народны артыст БССР М. Дзянісаў, заслужаная артыстка рэспублікі Т. Пастуніна, артыст Ю. Матраеў выканалі арыі з оперы Я. Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся», яго песні і рамансы, шэраг вакальных твораў М. Шнэйдармана.

# СЯМ'Я КНІГАЛЮБАЎ

Кніга трывала ўвайшла ў быт сельскіх працаўнікоў в. Упірава Іванаўскага раёна. Тут літаратуру чытае кожны пісьменны чалавек, стары і малы.

Паслугамі Упіраўскай сельскай бібліятэкі карыстаюцца звыш 500 чалавек, пераважна калгаснікі. Многа ў гэтай вёсцы кнігалюбаў.

Сем членаў сям'і калгасніка Сяргея Фёдаравіча Мазько — актыўныя чытачы сельскай бібліятэкі. Вось фармуляр Мазько Івана Сяргеевіча. Сярод 50 кніг, якія прачытаў юнак за 1960 г., — творы Ул. І. Леніна, Шолахава, Фадзеева, Гюго, Драйзера і іншых аўтараў.

Васіль Сяргеевіч — вучань 10 класа, таксама актыўны чытач.

Самы старэйшы сын, Мікалай, былы танкіст, зусім нядаўна пачаў наведваць бібліятэку, але ўжо многа прачытаў кніг. Сярод іх — раманы «Крыніцы» І. Шамякіна, «І адзін у полі воін» Дольд-Міхайліка і інш.

Самыя малодшыя дзеці Сяргея Фёдаравіча — Антон, Аляксандра і Марыя займаюцца ў школе. І яны актыўныя чытачы сельскай бібліятэкі.

Моцна дружаць з кнігай у гэтай вялікай сям'і. Тут кожны чытае: і маці, і сам Сяргей Фёдаравіч, нягледзячы на свой узрост. Калі хто з сям'і ўзяў цікавую кнігу, то яе прачытаюць усе, а потым абмяркуюць на «сямейнай канферэнцыі».

Ёсць і свае прапагандысты кнігі. Аляксандра, вучаніца сёмага класа, мае пэўны ўчастак, на якім 10 калгаснікаў — пастаянныя чытачы яе перасоўнай бібліятэкі.

...Даўно апусціўся вячэрні змрок на вёску. Хутка поўнач, але святло не гасне ў хаце Сяргея Фёдаравіча Мазько. Многія з членаў сям'і праводзяць вольны час за кнігай. За мінулы год гэтая сям'я прачытала каля 200 кніг.

**М. ПЯТРОЎ.**

## У падарунак музею

Не так даўно маскоўскі мастак Уладзімір Багаткін прыслаў у Музей абароны Брэсцкай крэпасці 10 аўталітаграфій. Гэта серыя гравюр аб незабыўных падзеях у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Сярод іх работы «На подступах да Масквы», «Абарона Масквы. Панфілаўцы», «Парад 7 лістапада 1941 г.», «Расплата. 1941 г.». Глыбока хвалююць літаграфіі «Сустрэча двух франтоў пад Ленінградам», «У наступленні».

У творах «Штурм рэйхстага», «Ля Брандэнбургскіх варот», «Берлін узяты», «Калона перамогі» раскрываецца апошні этап Вялікай Айчыннай вайны.

Некаторыя з названых работ экспануюцца ў музеі і выклікаюць цікавасць у наведвальнікаў. У бліжэйшы час уся серыя гравюр будзе выстаўлена ў зале, прысвечанай Вялікай Айчыннай вайне.

**Л. КІСЯЛЁВА.**

## ШАХЦЁРЫ НАБЫВАЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

Вялікую цікавасць праяўляюць да кніг беларускіх пісьменнікаў, перакладзеных на рускую і ўкраінскую мовы, жыхары шахцёрскага горада Красны Луч Луганскай вобласці. Многія з гарнякоў купляюць кнігі беларускіх пісьменнікаў. Праходчык Васіль Макараў набыў творы Янкі Купалы і Якуба Коласа. У яго асабістай бібліятэцы, якую ён збірае ўжо некалькі год ёсць творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Івана Шамякіна, Міхася Лынькова, Піліпа Пестрака, Янкі Брыля і многіх іншых беларускіх пісьменнікаў.

Добрая бібліятэка і ў рабочага забоя Івана Карзунова. У яго таксама ёсць творы беларускіх пісьменнікаў.

У мінулым годзе кнігагандлёвы магазін прадаў насельніцтву шахцёрскага горада каля пяці тысяч кніг беларускіх пісьменнікаў, перакладзеных на рускую і ўкраінскую мовы. Добра ідзе гандаль кнігамі і сёлета. Прададзена некалькі сот кніг беларускіх пісьменнікаў.

**Ул. УЛАСЕНКА,**
**шахцёр.**

Луганская вобласць.

## Канцэрты самадзейных артыстаў

Удзельнікі самадзейнасці Лельчыцкага раённага Дома культуры часта выязджаюць з канцэртамі ў калгасы раёна. Днямі яны былі жаданымі гасцямі ў сельгасарцелі імя Леніна. Хор пад кіраўніцтвам О. Мазурэнкі выканаў песні «За мір і шчасце» самадзейнага кампазітара Гомельшчыны Гапонава, «Колькі ў небе зорак» самадзейнага кампазітара Гродзенскай вобласці Шыдлоўскага, рускую песню кампазітара Фляркоўскага «Прасторы раздолля» і інш. Вялікім поспехам у гледачоў карысталіся салісты Люда Стэльмах і Тамара Дамбоўская. Па-майстэрску чыталі вершы Міхаіл Шульга і Анастасся Жогла. Танцавальны калектыў пад кіраўніцтвам С. Анапрыйчука выканаў рускі танец «Вечар у вёсцы», жартоўны танец «Кухары» і інш.

Самадзейныя артысты падтрымліваюць творчыя сувязі з суседнімі раёнамі Украінскай ССР. Нядаўна лельчыцкія артысты выступілі з вялікай канцэртнай праграмай перад працоўнымі Славечанскага раёна. Цёпла віталі лельчыцкіх спевакоў і танцораў на сцэнах Жыткавіч, Турава, Ельска, Нароўлі і Петрыкава. У бліжэйшы час самадзейныя артысты выедуць у Тураў, Ельск, у вёскі свайго раёна.

**Д. МАСЛАЎ.**

# ЗА ДАЎГАВЕЧНАСЦЬ ПЕСНІ

**Адам Русак даўно працуе ў паэзіі.** Многія яго творы, пакладзеныя на музыку, набылі папулярнасць. Сярод іх ёсць бясспрэчныя ўдачы і слабыя рэчы. Але паколькі аўтар — вядомы паэт-песеннік і ў пэўнай меры ўплывае на паэтычную моладзь, карысна высветліць, у чым яго сіла і слабасць. Гэта тым больш неабходна, што ў апошні час чуліся галасы ў абарону так званых «песенных тэкстаў», пазбаўленых усялякай мастацкай вартасці. Няма патрэбы даказваць, што падобныя сцвярджэнні на руку халтуршчыкам, якія гатовы запаланіць сваёй макулатурай і перыядычныя выданні, і эфір, і эстраду. Песня — масавы жанр. Яна даходзіць да найшырэйшай аўдыторыі. І калі словы нікчэмныя, ад гэтага мы будзем мець толькі шкоду. Здавалася б, ісціна простая, але на практыцы яе забываюць, і ў выніку да сённяшняга дня нас частуюць вершаплётнымі практыкаваннямі. Дзіўная рэч! Вершы, забракаваныя ўсімі часопісамі і газетамі, з асаблівай ахвотай падхопліваюцца кампазітарамі.

Разгледзець вершы Адама Русака адасоблена ад музыкі надзвычай павучальна. Яны лішні раз сведчаць, што толькі сапраўдны, высокапаэтычны верш можа быць асновай змястоўнай песні.

У першых сваіх творах аўтар паэтызаваў «акорды», «міноры», «сілу маладую», што «выйшла... з песняй мая» і г. д. Беспрадметнае красамоўства, мнагаслоўнасць, неадчувальнасць вобразаў, характэрныя для вершаў «Зазвінелі струны», «Веснавыя плыні», «У даль», не гарманіравалі з канкрэтнымі праявамі жыцця і, вядома, не маглі стаць песнямі. Іх нецікава чытаць, не толькі спяваць. Яны занадта метафарычныя, неакрэсленыя па задуме.

У вершы «Выйду» (1932) паэт ужо робіць сур'ёзны крок наперад. Радок набывае ёмістасць, пругкасць, і хоць яшчэ ў асобных строфах «рассыпаюцца... радасці ўсмешкі», праз кніжную ўмоўнасць прарываюцца і дакладныя, запамінальныя радкі.

Праўда, аўтар неэканомны ў выбары слоў, ён без патрэбы вар'іруе адзін і той жа радок — «выйду ў поле на дарогу», «выйду ў поле пад дуброву», «хістае вецер нівы», «хіліць вецер ды калоссі» і г. д. Мноства разоў упамінаюцца вецер, поле, нівы, што, бясспрэчна, засмечвае верш, пазбаўляе неабходнай энергіі і празрыстасці. Фальклорная стыхія захліствае паэтычны човен Адама Русака. Ён знаходзіцца ў палоне гатовага ўзору, не ўмее аддзяліць лепшае ад другараднага. Вонкавая арнаментальнасць падмяняе карціну. Аўтарская думка абяскрылена інертнасцю формы.

Праз чатыры гады пасля гэтага верша Адам Русак напісаў свой лепшы твор — «Бывайце здаровы» — цэласны па задуме, выверaны і ўзважаны ў дэталях. Цеплыня новых чалавечых узаемаадносін, упэўненасць у заўтрашнім дні — усё гэта знайшло адлюстраванне ў вершы Адама Русака. Ён яскрава перадаў характэрныя нацыянальныя рысы беларусаў— гасціннасць, добразычлівасць, схільнасць да бяскрыўднага, тактоўнага жарту. Гэта, бясспрэчна, навеяна фальклорнымі матывамі.

> Жадаем яшчэ вам
> Прыбытку у хаце,
> Ні мала, ні многа —
> Штогод па дзіцяці.
>
> Не будзе вам крыўды
> Яшчэ і за тое,
> Калі пашанцуе
> На год і па двое.

Тут ёсць неабходная гістарычная канкрэтнасць, якой не хапала папярэдняй творчасці паэта. Ён смела заяўляе: «У вашым калгасе шырокае поле», «кароў шмат і коней, свіней і авечак». І гэтым не зніжае гучання твора, а толькі надае яму перакананасць, жыццёвасць. Карціна, намаляваная аўтарам, адпавядала сапраўднасці, і не дзіўна, што яна прыйшлася да душы людзям. Народ зрабіў «Бывайце здаровы» адной з любімых песень, якая і сёння гучыць свежа і молада.

Многа часу прайшло, перш чым Адаму Русаку давялося зноў сустрэць творчую радасць. Скажам шчыра, што такія вершы, як «Выйдзі, выйдзі, дзеўчына...», «Як правёў мяне Цімох», «Як той Зосі давялося»— стылізацыя пад фальклор, перасыпаная охамі і ахамі; відаць, аўтар меркаваў, што падобныя воклічы перададуць адчуванне—«дзе мне радасць сваю дзеці». Паслухайце, як ненатуральна, непраўдзіва гучаць радкі:

> Зося пісьмы напісала,
> Сыноў бачыць пажадала,
> І тут госці, нібы з грому,
> На машынах коцяць к дому...
> Восем хлопцаў — восем дзетак.
> Восем кветачак-нявестак.

Мацярынская радасць, як і іншыя чалавечыя пачуцці, патрабуе стрыманасці ў выяўленні, бо глыбокае пачуццё немнагаслоўнае. І хоць аўтар не паскупіўся надзяліць усіх выгаднымі прафесіямі: Апанас—машыніст, Сцяпан — трактарыст, Аляксей — аграном, Мікалай — астраном, Анатоль — інжынер, Мацей — афіцэр, Янка—лётчык, Пятрусь — музыка, мы не бачым аблічча ніводнага з іх, нават вобраз самой маці няўлоўны. Вядома, як можна ўявіць індывідуальныя рысы людзей, якія ўсе «малойцы», «грамацеі», якім прасцей простага па першаму пісьму маці прыкаціць (на машынах!) дадому... усім адразу.

Няўменне карыстацца фальклорам прыводзіла Адама Русака да паэтычных кур'ёзаў. Калгаснікі з верша «Дажынкі» гавораць так:

> Добры вечар табе,
> Старшыня-гаспадар!
> Выйдзі к нам ды прымі
> Працы нашае дар.

Што гэта — зварот прыгонных жней да свайго пана? Калі паверыць аўтару, дык старшыня ў час уборкі ўраджаю сядзеў дома, чакаючы, пакуль яму прынясуць «дары». Навошта? Яго гнаць трэба з пасады, а не ўкленчваць:

> ... Наладжвай нам баль
> Ды музыкаў збірай,
> Ты на славу цяпер
> Нам дажынкі спраўляй.

Так пісаў Адам Русак аб калгасным жыцці ў 1938 г. Не дзіўна, што Вялікая Айчынная вайна пададзена ім у вобразах пералётных гусей і традыцыйных гвардзейцаў. Такія рэчы, як «Тры гвардзейцы», хутчэй напамінаюць песні часоў гайдамаччыны, чым сучасныя творы. Дзяўчына, якая «доўга ў няволі» чакала збаўлення, паводзіць сябе так:

> Аднаму **прыслужыць** (?!),
> На другога гляне,
> Трэцяму ўсміхнецца
> **Ласкаю вачэй.** (?!)

Ні даць, ні ўзяць — прыехалі вусатыя малойцы сватаць чарнабровую казачку. Дзе тут атмасфера вайны? Дзе гнеў і боль людзей, змардаваных гітлераўскімі галаварэзамі?

Лінія фронта раздзяляе доўгі час многіх блізкіх людзей. Натуральна, што франтавікі пасылалі свае думы з хмарамі, з ветрам, з пералётнымі гусямі, — такая ўмоўнасць прымальная як запеў. Але як лёгкадумна гучыць гэта ў Адама Русака:

> Паляцелі птушкі,
> Паляцелі гусі...

Зусім ясна, што такія хрупкія крылы не могуць падняць сур'ёзнай тэмы. Дзіва што! Паглядзіце на слоўнік паэта — воды, хвалі, плыні, крыгі, вецер, — усё гэта ў пераносным сэнсе!? Ці можна ім перадаць трагізм кровапралітнейшай вайны? Зразумела, не. Гэта лішні раз пацвярджае думку, што фальклор можа быць выкарыстан толькі творча, што далёка не ўсе сучасныя паняцці можна выказаць пры дапамозе сродкаў народнай творчасці. Фальклор — не самамэта, а адзін з мастацкіх сродкаў. Ён ажыўляе твор тады, калі падпарадкаваны аўтарскай задуме, пераасэнсаваны ў адпаведнасці з надзённай патрэбай. Інакш ён застанецца мёртвым злепкам, непатрэбным анахранізмам.

У Адама Русака трапляюцца вершы, якія, хоць і фальклорныя ў аснове, гучаць арыгінальна. Гэта — «Мяцеліца», «Па ваду дзяўчына ходзіць». Штрых за штрыхам вывісоўваецца вобраз дзяўчыны, добрай, увішнай калгасніцы, якая ўмее і працаваць хораша, і пагуляць весела:

> Як вядзе жняярку ў полі, —
> У рады снапы сцелюцца,
> Жнеі глянуць ды гавораць:
> «Не дзяўчына—мяцеліца».
>
> Прыбяжыць на вечарынку —
> Пяе, скача, вяселіцца,
> Хлопцы глянуць ды гавораць:
> «Не дзяўчына—мяцеліца».

І вось паэт робіць нечаканы паварот думкі, і рэч набывае новае гучанне:

> А як пройдзе, як паглядзіць,
> Як усмешкай падзеліцца —
> Тваю душу, тваё сэрца
> Уміг закруціць мяцеліца.

З такой жа паэтычнай хітрынкай заканчваецца другі з названых вершаў:

> Па ваду дзяўчына ходзіць,
> Маці ў толк не дабярэ,
> Што калодзеж той з вадою
> У мілога на дварэ.
>
> Трактарыст русавалосы,
> Ці не чуеш ты бяды?
> Ой, бяры дзяўчыну замуж,
> Бо пакіне без вады.

Найбольшую вядомасць у пасляваенныя гады набыла «Лясная песня» паэта. Гэтаму, па-першае, садзейнічала таленавітая музыка Ул. Алоўнікава. Але і ў словах Адама Русака ёсць вартасць, якая, несумненна, зацікавіла кампазітара. Проста, без стылізацыі пад гатовыя ўзоры, паэт расказаў аб тым, чым абяссмерціў сябе беларускі народ,— аб партызанскай барацьбе.

> Ой, бярозы, ды сосны —
> Партызанскія сёстры...

Гэтыя радкі глыбока асацыятыўныя, яны будзяць эмоцыі. Вядома, і «Лясная песня» выйграла б, калі б аўтар да канца пераадолеў умоўнасць.

> Ды успомню пажары,
> І варожыя хмары...

«Варожыя хмары» — вельмі прыблізнае азначэнне, асабліва таму, што ўмоўныя хмары суседнічаюць з рэальнымі падрабязнасцямі партызанскага быту — завеямі халодных снягоў, слотай, начнымі паходамі, кастрамі. Некаторыя радкі занадта абязлічаныя, вялыя: «толькі сэрцам пачую», «ты вялікі свабодны». Іх можна было насыціць большым зместам, большай дынамічнасцю. У цэлым жа «Лясная песня» — адно з найвышэйшых дасягненняў Адама Русака.

Па радыё часта можна пачуць песню «Дняпро» на словы Адама Русака. Шырокая, урачыстая музыка падкупляе слухача, але якое расчараванне спасцігае чалавека, калі ён чытае верш паэта. Як тут усё адвольна! Шаўчэнкаўскае «Реве та стогне Дніпр широкий» захапляе і без музыкі, мы адчуваем, што ні пра якую раку ў свеце так сказаць немагчыма. Там дадзена характэрная карціна, кожная дэталь дапамагае раскрыццю цэлага. А што мы маем у «Дняпры» Адама Русака?

> **Ой, Дняпро, ты наш родны,**
> **любімы,**
> **Казка** нашых шумлівых лясоў,
> **Слава** нашай квяцістай Радзімы,
> **Песня** нашых шырокіх палёў.

«Казка... слава... песня» — паняцці, якія самі патрабуюць канкрэтызацыі. Як жа можна такімі словамі намаляваць карціну? Не было б нічога дзіўнага, калі б мы сказалі тое самае пра Амур, Іртыш і г. д. А як не па-песеннаму ўспрымаюцца радкі: «пра адважных сыноў пра сваіх», «на шырокі палетак на твой». Адкуль над нашым Дняпром быць «вяршыні горнай»? Якія «агні залатыя» могуць «чорныя вораны... згасіць»? «Жыватворчая вада», «спевы звонкія», «песня новая», «кіпучыя хвалі», «ранняя пара», «зоры», «прасторы», «сады» і г. д. — усё гэта не змацавана паэтычнай думкай, рассыпаецца само па сабе. Неяк крыўдна робіцца, што пра цудоўнейшую раку беларускую напісана так дзяжурна, казённа, холадна. Вядома, такія бяскроўныя словы існуюць толькі за кошт музыкі. І ніякімі разважаннямі аб спецыфіцы песенных тэкстаў не ажывіць гэтых мёртвых радкоў.

Не раз адзначалася, што нашы паэты-песеннікі замардавалі сваіх дзівакаватых закаханых, бясконца водзячы іх па гаях, палях, лугах, не дазваляючы ім нават прысесці. Толькі ў адным вершы «Кажуць людзі» Адам Русак ухітрыўся да зморы навадзіць сваіх герояў: «кажуць людзі, што Андрэйка часта ходзіць да мяне», «мы ж у поле толькі ходзім на работу разам з ім», «кажуць людзі, што хадзілі мы з Андрэйкам удваіх» і г. д. Чамусьці ўсе яны не па ўзросту велічаюцца Сярожкамі, Андрэйкамі, Цімошкамі, цалуюцца «патрошку», пракладваюць да сэрцаў дарожкі, горнуцца да любых дзяўчат «сэрцам, душою».

Мы крытыкуем фільмы, раманы, аповесці, спектаклі, у якіх дзеючыя асобы не надзелены «лица необщим выраженьем». Чаму ж мы павінны мірыцца з песнямі, у якіх героі падобны, як этыкеткі на цукеркавых карабках? Нямала паспрыяў распаўсюджванню такіх тэкстаў і Адам Русак. Якімі збеднены выглядаюць у яго вершах людзі, якія абмежаваны іх кругагляд, якія яны прымітыўныя па душэўнай арганізацыі! Каханне тут — не акрыляючае пачуццё, а падстава ў соты раз паўтарыць слінявыя сентэнцыі аб пацалунках, хваравітых сэрцах, бяссонных начах... Ці мог усяго гэтага пазбегнуць Адам Русак? Бясспрэчна, мог!

Мы з цікавасцю знаёмімся з народнымі частушкамі, якія замацавалі пэўныя факты і з'явы жыцця, з частушкамі, якія «стралялі» ў свой час. Але навошта прафесіянальнаму паэту ўключаць у «Выбранае» прыпеўкі, якія зводзяцца да таго, што «мяне міленькі запіша на фамілію сваю», што «ў сельсавет заве Сярожка, каб са мною запісацца»? Ніводнаму газетнаму рэпарцёру не прыдзе ў галаву сабраць свае інфармацыі і выдаць іх вялікім томам у каленкоравай вокладцы на той падставе, што яны некалі друкаваліся. Чаму для прымітыўных частушак, напісаных вопытным аўтарам, павінна быць выключэнне, чаму іх трэба размнажаць у 4 500 экземплярах?

Аддаючы належнае заслугам Адама Русака ў развіцці беларускай савецкай песні, мы не можам змоўчаць аб недахопах. «Трэба нам песень, як гром- перуновы», — гаварыў Янка Купала. Сённяшняй паэзіі пад сілу здзейсніць гэту высакародную задачу, яна здольная знайсці новыя шляхі і стварыць натхнёныя, даўгавечныя песні аб гераічнай сучаснасці.

**Сцяпан ГАЎРУСЕЎ.**

---

**Адам Русак.** Толькі з табою. Выбранае. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. 1960.

